# ЗВЯЗДА

11 верасня 1996 г. серада, № 224 (23027)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


## РОЗГАЛАС

### Дзелавы візіт Прэзідэнта ў Маскву

**7 верасня адбыўся кароткатэрміновы дзелавы візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў Маскву. Кіраўнік дзяржавы сустрэўся са Старшынёй урада Расійскай Федэрацыі Віктарам Чарнамырдзіным, намеснікам Старшыні ўрада Аляксандрам Завярухам, сакратаром Савета бяспекі Аляксандрам Лебедзем, міністрам замежных спраў Яўгенам Прымаковым, міністрам абароны Ігарам Радзівонавым.**

Абмеркаваны комплекс пытанняў, звязаных з развіццём і паглыбленнем беларуска-расійскіх адносінаў, актывізацыяй інтэграцыйных працэсаў у галіне абароннага, эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва.

Сустрэчы прайшлі ў дзелавой, канструктыўнай абстаноўцы. Па пытаннях, якія абмяркоўваліся, дасягнута поўнае ўзаемаразуменне.

**Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — БЕЛТА.**

*У Кабінеце Міністраў*

### Міхаіл Чыгір і Уладзімір Ганчарык правялі рабочую сустрэчу

**Ход выканання рэзалюцыі рэспубліканскай нарады прафсаюзнага актыву прамысловых прадпрыемстваў, якая прайшла 18 ліпеня 1996 года, быў абмеркаваны на праведзенай 9 верасня ў Кабінеце Міністраў рабочай сустрэчы прэм'ер-міністра рэспублікі Міхаіла Чыгіра са старшынёй Федэрацыі прафсаюзаў беларускай Уладзімірам Ганчарыкам і кіраўнікамі шэрага міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе Кабінета Міністраў, у ходзе праведзенай рабочай сустрэчы было адзначана, што прапановы, выкладзеныя ў рэзалюцыі, знаходзяцца пад пільнай увагай адпаведных дзяржаўных органаў, прымаюцца аператыўныя дзеянні па іх рэалізацыі.

Асаблівая ўвага на сустрэчы была ўдзелена пытанню пагашэння запазычанасці па заработнай плаце, таму ўжо ў бліжэйшы час будуць ажыццёўлены дадатковыя меры па забеспячэнню своечасовай выплаты зарплаты. На сустрэчы таксама было прынята рашэнне пры неабходнасці вярнуцца да гэтага пытання з улікам інфармацыі аб запазычанасці па зарплаце па стану на 10 верасня.

**БЕЛТА.**

### Сталіца не радуе

**Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў службе занятасці насельніцтва, на 1 верасня на Беларусі афіцыйны статус беспрацоўнага мелі 183.366 чалавек, што складае прыкладна 3,3 працэнта ад усяго працаздольнага насельніцтва краіны. Такім чынам, за апошні месяц лета армія беспрацоўных рэспублікі павялічылася яшчэ амаль на 3 тысячы чалавек.**

Па-ранейшаму найбольш напружаная сітуацыя адзначаецца на рынках працы Гродзенскай, Мінскай і Гомельскай абласцей, дзе паказчыкі беспрацоўя склалі 4,07, 3,99 і 3.97 працэнта адпаведна.

Разам з тым кідаецца ў вочы, што на пачатку жніўня гэтыя лічбы былі тут хоць і не намнога, але меншымі.

Затое мяняецца да горшага сітуацыя ў самым спрыяльным з пункту гледжання беспрацоўя рэгіёне краіны — Мінску, дзе колькасць «лішніх людзей» у працэнтных адносінах павялічылася з 1,79 да 1,91. Факт, асабліва напярэдадні традыцыйнай асенняй хвалі скарачэнняў, нярадасны.

І яшчэ адна інфармацыя для роздуму: на пачатак месяца на рынку працы Беларусі заставалася ўсяго 18,1 тысячы вакансій, альбо па аднаму працоўнаму месцу на дзесяцярых беспрацоўных.

**Сяргей ГРЫБ.**

*Вытворчыя драмы*

### І МАЗ, і МЗКЦ падвялі яраслаўцы

**Як ужо паведамляла «Звязда», сваю працу на тыдзень (пачынаючы з панядзелка) спынілі два буйныя беларускія прадпрыемствы — Мінскі аўтамабільны завод і Мінскі завод колавых цягачоў (МЗКЦ).**

Прычына спынення абодвух заводаў адна — «у сувязі з адсунасцю пастаўкі рухавікоў Яраслаўскім маторным заводам» (цытую загад № 413 ад 5 верасня 1996 года па МЗКЦ — **М. Л.**).

На МЗКЦ засталіся працаваць толькі некалькі аддзелаў: канструктарскі, эксперыментальны, рамапрэсавы, а таксама корпус зборкі і выпрабаванняў. Ды і то не ў поўным саставе, бо, як патлумачылі ў адміністрацыі прадпрыемства, праводзіцца палітыка эканоміі рэсурсаў. Што датычыцца выплаты грошай за вымушаны прастой, то, у адпаведнасці з КЗаП, рабочыя атрымаюць за гэтыя дні 2/3 тарыфнай стаўкі.

На МАЗе, акрамя праблемы з прастоем, не пагашана дасюль запазычанасць па ліпеньскаму заробку, якая выклікала, як мы памятаем, выступленні рабочых. Да таго ж і час не стаіць на месцы — мінуў жнівень, верасень амаль у палове.

Цяжкае становішча і на «Гомсельмашы» — там патрабавалі ад кіраўніцтва выплаты ліпеньскіх грошай пад пагрозай правядзення папераджальнай забастоўкі. Адміністрацыя своечасова ацаніла сур'ёзны настрой рабочых і заробак усё ж пачалі выплачваць.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*Разбоі*

### Рэкет па-сіняўску: 200 долараў на ўсіх, ці 5 тысяч «зайцоў» з кожнага пасажыра аўтобуса

**Учора раніцай «Радыёфакт» перадаў што пасажырскі аўтобус на маршруце Івацэвічы—Слуцк падвергся разбойнаму нападу. Усе падзеі адбываліся ўначы, недалёка ад Ляхавіч.**

Карэспандэнту «Звязды» ўдалося даведацца пра некаторыя падрабязнасці гэтага здарэння ў Ляхавіцкім РАУС. Крымінальны сюжэт аказаўся надзвычай просты. Экскурсійны «Ікарус» па маршруту Івацэвічы—Слуцк падарожнічаў з 47 пасажырамі. Апоўначы паміж вёскай Сіняўка, што ў Клецкім раёне, і вёскай Тальмінавічы, якая адносіцца да Ляхавіцкага раёна, аўтобус зрабіў вымушаны прыпынак: вадзіцелі вырашылі «падцягнуць» гайкі ў коле машыны, з-за чаго выйшлі з неабходным інструментам на абочыну трасы. На дзіва, у гэты позні час на прыгранічнай паласе аказаліся трое дзецюкоў, якія, відаць, неслі «дзяжурства» пры святле зорак і месяца з мэтай браць даніну з вадзіцеляў-разявак.

«Пагранічнікі» адабралі ў шафёраў «Ікаруса» манціроўку і зайшлі ў салон машыны з ультыматумам: 200 долараў ЗША на ўсіх — і аўтобус будзе адпушчаны. Пасажыры «не ўважылі» мясцовы рэкет указанай сумай. Тады зладзеі зменшылі «суму»: па пяць тысяч беларускіх рублёў з кожнага, на што «заложнікі» згадзіліся... Дарэчы, дзяцей сярод іх не было.

У 1.30 ночы вадзіцелі перадалі аб здарэнні на бліжэйшы міліцэйскі пост. На злаўленне «рэкеціраў» выехала аператыўная група на чале з намеснікам Ляхавіцкага РАУС падпалкоўнікам Іванам Шпаком.

Кампанію яму склалі старшыня міліцыі Юрый Малевіч і сяржант Анатоль Монцік.

Дэтэктывам спатрэбілася ўсяго паўгадзіны, каб выйсці на след дарожных разбойнікаў. Двое з іх былі затрыманы ў вёсцы Сіняўка і перададзены ў Клецкі РАУС, на тэрыторыі якога і адбылося рабаўніцтва. Паводле папярэдніх даных, адзін з затрыманых — работнік Сіняўскай мэблевай фабрыкі, другі — былы студэнт адной са сталічных ВНУ. Трэці на ўчарашні дзень яшчэ быў на ўцёках. А значыць, кропку ў гэтай крымінальнай гісторыі ставіць яшчэ рана...

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 10 верасня 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША Купля | Долар ЗША Продаж | Нямецкая марка Купля | Нямецкая марка Продаж | Расійскі рубель Купля | Расійскі рубель Продаж | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ФК «Вераніка» (за расійскія рублі) | 17600 5400 | 18000 5510 | 11700 | 12300 | 3.24 | 3.36 | 53-15-04 |
| Гал. упр. НБ па Мінску і Мінскай вобл. з улікам дылінг. прэміі | 17700 | | 11800 | | 3.20 | | 26-64-41 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» з улікам дыл. прэміі | 17500 | 18000 | 11700 | 12100 | 3.10 | 3.25 | 372-825 |
| Ф-л № 3 «Гарант» АСКБ «Тэхнабанк»* | 17710 | 17850 | 11918 | 12200 | 3.21 | 3.40 | 331-917 |
| АКБ «Аб'яднаны капітал» | 17700 | 18100 | 11700 | 12100 | 3.10 | 3.30 | 394-092 |
| СКБ «Тэхнабанк» з улікам дыл. прэміі | 17650 | 18100 | 11300 | 11700 | 3.20 | 3.35 | 342-012 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 14550 | | 9821.79 | | 2.71 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 6359 | | 3593.27 | | 100 бел. р. 29.10 | | |

*Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.*

*«Гарачыя» тэлефоны «Звязды» 268-28-72, 268-27-51*

### Пра медыцыну замоўце слова...

**Нядаўна з намі звязаўся медыцынскі работнік са Слуцкага раёна і паскардзіўся на тое, што, маўляў, іх заробку не хапае нават на пражыццё. І плаціць сталі раз у месяц.**

Раней хоць аванс існаваў, неяк можна было мірыцца. А зараз дадуць 700—800 тысяч у месяц і прыходзіцца разлічваць да наступнай зарплаты.

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», па стану на 1 верасня бягучага года запазычанасці па выплаце ліпеньскага заробку работнікам медыцынскай галіны няма. Наконт грошай можна сказаць наступнае: сярэдні памер заработнай платы медыкаў складае 1107 тысяч рублёў. Гэта, вядома, вельмі прыкладная лічба, бо ў састаў персаналу ўваходзяць людзі з самымі рознымі заробкамі. Але ж і сярэднія даныя гавораць самі за сябе — грошай хапае толькі на пакрыццё так званага пражытачнага мінімуму. Медыцына ніяк не можа пазбавіцца рудыменту «бясплатная», адпаведнага ёй як па якасці абслугоўвання, так і па памеру заробку ўрача і медсясцёр.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### Замест дылінгавых прэміі і збору — павышальны каэфіцыент

**З мэтай упарадкавання правядзення аперацый на валютным рынку Нацыянальным банкам устаноўлена, што пры вызначэнні курса куплі і продажу замежнай валюты замест дылінгавых прэмій і збораў упаўнаважаныя банкі і суб'екты гаспадарання, што маюць ліцэнзію на правядзенне дылінгавых аперацый, павінны карыстацца павышальным каэфіцыентам да базавага абменнага курса. Памер павышальнага каэфіцыента ўстаноўлены на ўзроўні да 1,2.**

Базавы абменны курс замежных валют вызначаецца на перыяд да 31 снежня 1996 года, у залежнасці ад попыту і прапанавання, але не вышэй як 15.500 беларускіх рублёў за адзін долар ЗША. Пры ўстанаўленні базавых абменных курсаў іншых валют трэба арыентавацца на суадносіны свабодна канверсуемых валют і расійскіх рублёў да долара ЗША, разлічаныя па афіцыйных курсах Нацыянальнага банка.

**Прэс-служба Нацыянальнага банка Беларусі.**

### Поспехі будуць заахвочаны

**Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне, якім зацвердзіў рашэнне савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы здольнасці навучэнцаў і студэнтаў.**

Гэта рашэнне датычыць Палажэння аб заахвочванні пераможцаў прадметных міжнародных і рэспубліканскіх алімпіяд, канферэнцый, конкурсаў і турніраў вучняў агульнаадукацыйных навучальных устаноў, Палажэння аб конкурсе аспірантаў на лепшую навуковую работу, Палажэння аб аказанні матэрыяльнай дапамогі студэнтам і навучэнцам, якія дабіліся высокіх паказчыкаў у вучобе, Палажэння аб парадку заахвочвання выкладчыкаў і вучоных, якія ўнеслі асабісты ўклад у фарміраванне новай, больш эфектыўнай сістэмы адукацыі, распрацоўку сучасных методык развіцця здольнасцей таленавітай моладзі ў галіне навукі, тэхнікі і перадавых тэхналогій.

Гэтым жа распараджэннем Міністэрству фінансаў даручана выдзеліць спецыяльнаму фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы здольных навучэнцаў і студэнтаў з рэзервовага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 210 мільёнаў рублёў.

**БЕЛТА**



## СТРАТЭГІЧНАЯ МЭТА — ПАВЫШЭННЕ ЖЫЦЦЁВАГА ЎЗРОЎНЮ НАРОДА

**Экспарт, жыллё, харчаванне — тры галоўныя прыярытэты, што стануць асновай сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў бліжэйшыя гады. Стратэгічная мэта ўсіх пераўтварэнняў, якія трэба будзе ажыццявіць дзяржаве на парозе XXI стагоддзя, — павышэнне жыццёвага ўзроўню беларускага народа. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 10 верасня з дакладам на Рэспубліканскай нарадзе кіраўнікоў абласных, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў «Аб асноўных напрамках сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2000 года».**



*Аляксандр Лукашэнка выступіў на Рэспубліканскай нарадзе кіраўнікоў абласных, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў.*

Як паведаміў, адкрываючы пасяджэнне, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, у гэтым прадстаўнічым форуме прынялі таксама ўдзел адказныя работнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, кіруючы састаў Кабінета Міністраў, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў — увогуле звыш 1000 чалавек.

Прадстаўляючы асноўныя палажэнні праекта Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2000 года, Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што яе распрацоўка па даручэнню Прэзідэнта вялася спецыялістамі, вучонымі, урадам на працягу паўгода. У падрыхтоўцы дакумента прымалі ўдзел лепшыя розумы краіны, якія прадстаўляюць розныя плыні эканамічнага жыцця. Калі на пачатковым этапе былі распрацаваны пяць розных варыянтаў, то потым яны былі аб'яднаны ў тры, на падставе якіх і быў сфарміраваны гэты праект асноўных напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця.

У абмеркаванні праекта асноўных палажэнняў праграмы актыўны ўдзел прынялі члены Кабінета Міністраў, кіраўнікі ведамстваў і прадпрыемстваў.

Як адзначыў віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг, складанасць эканамічнай сітуацыі ў многім тлумачыцца тым, што да гэтага часу не была ліквідавана галоўная прычына крызісу — неэфектыўныя формы гаспадарання. У прапануемым варыянце яны ліквідуюцца. Разам з тым, адзначыў намеснік кіраўніка ўрада, вельмі важна, каб намечаная стратэгія знайшла рэальнае адлюстраванне ў практычнай дзейнасці. Перадоленне крызісу ў вытворчай сферы будзе садзейнічаць развіццю прыярытэтных напрамкаў эканамічнай палітыкі на рынкавай аснове, што ў сваю чаргу станоўча адаб'ецца на гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве з краінамі СНД, умацуе інтэграцыйныя працэсы ў рамках Супольніцтва Беларусі і Расіі, а таксама «саюза чатырох».

Падтрымаўшы ў цэлым праект праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Тамара Віннікава заўважыла, што з асцярожнасцю ставіцца да закладзенай у дакуменце экспансіяністскай фінансавай палітыкі, арыентаванай на забеспячэнне рэальных патрэбнасцей эканомікі ў плацежных сродках. І хоць, на яе думку, прапанаваная праграма ўстанаўлівае дакладныя правілы гульні для ўсіх суб'ектаў эканамічных адносінаў і, безумоўна, здольная падняць з крызіснай ямы народную гаспадарку рэспублікі, у ёй недастаткова ўлічана зближэнне грашовых сістэм Беларусі і Расіі.

Ход абмеркавання праграмнага дакумента, з якім краіне трэба будзе ўвайсці ў наступнае тысячагоддзе, Прэзідэнт у сваім заключным слове ацаніў як канструктыўны. Ён заявіў, што дзелавыя прапановы і заўвагі, якія прагучалі ў спрэчках, будуць абавязкова прапрацаваны. А найбольш прынцыповыя з іх, як, напрыклад, пералік чарнобыльскіх прыярытэтаў, увойдуць ва ўзгоднены тэкст праекта. Аляксандр Лукашэнка прапанаваў кіраўнікам рэгіёнаў таксама распрацаваць, узяўшы за аснову рэспубліканскую праграму, праекты праграм сацыяльна-эканамічнага развіцця абласцей, гарадоў і раёнаў.

Кіраўнік дзяржавы асабліва падкрэсліў, што ў цяперашняй складанай сітуацыі прэзідэнцкая вертыкаль не падвяла, зрабіла ўсё магчымае, каб краіна выжыла на павароце перамен. Гэтым, на думку Аляксандра Лукашэнкі, дасягнута і другая важная мэта — неабходнасць менавіта такой формы выканаўчай улады, якая спаяна з верху да нізу жыццёвымі інтарэсамі народа.

Удзельнікі Рэспубліканскай нарады адобрылі Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі. Падтрыманы таксама прапанова Прэзідэнта аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму 7 лістапада і вынесеныя ім на ўсенароднае галасаванне пытанні, якія маюць прынцыповае значэнне для далейшага развіцця грамадства і павышэння дабрабыту ўсяго беларускага грамадства.

Звяртаючыся да працоўных калектываў, удзельнікі нарады адзначылі, што рэалізацыя паслядоўных мераў, накіраваных на стабілізацыю эканомікі і павышэнне жыццёвага ўзроўню народа, магчыма толькі ва ўмовах палітычнай стабільнасці, грамадскай згоды, якія фарміруюцца на аснове Канстытуцыі дзяржавы, дзе збалансаваны функцыі, паўнамоцтвы і роўная ступень адказнасці ўсіх без выключэння органаў дзяржаўнай улады перад народам. У сувязі з гэтым удзельнікі нарады заклікалі грамадзян рэспублікі падтрымаць прапановы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, вынесеныя на рэспубліканскі рэферэндум 7 лістапада 1996 года.

**Ларыса ЛАЗАР, Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

## ГРАНІЦА ЧАКАЕ ПЕРАМЕН

**«Адна з важнейшых задач дзяржаўнага будаўніцтва — мець такую пагранічную службу, якая магла б у любы час і ў любых умовах прафесіянальна, эфектыўна забяспечыць бяспеку краіны і яе граніц».**



*Начальнік Галоўнага ўпраўлення пагранічных войскаў Беларусі генерал-маёр Аляксандр Паўлоўскі.*

Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 9 верасня на нарадзе кіруючага саставу пагранічных войскаў. Ён аб'явіў аб кадравых назначэннях і прадставіў новага начальніка Галоўнага ўпраўлення пагранічных войскаў генерал-маёра Аляксандра Паўлоўскага. У нарадзе прынялі ўдзел дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, намеснік дырэктара Федэральнай пагранічнай службы Расіі генерал-лейтэнант Аляксандр Манілаў, а таксама кіруючы састаў аператыўнай групы Пагранічных войскаў Расійскай Федэрацыі і Галоўнага ўпраўлення Пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь.

Працэс кадравых змяненняў, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, заканамерная з'ява. У многім яна абумоўлена звычайным ходам жыцця. Робячы новыя назначэнні, я заўсёды стаўлю адну мэту — умацаваць кіраўніцтва цэнтральных органаў кіравання і назначыць на адпаведныя высокія дзяржаўныя пасады кампетэнтных, сумленных і прыстойных людзей, здольных арганізаваць дакладную, зладжаную работу падначаленых ім калектываў. Назначэнне новага кіраўніка Галоўнага ўпраўлення пагранвойскаў, паводле слоў Прэзідэнта, адбываецца ў няпростай грамадска-палітычнай абстаноўцы. «Я цвёрда перакананы, — падкрэсліў ён, — што ў нас сфарміраваліся неабходныя аб'ектыўныя ўмовы для стабілізацыі становішча ў эканоміцы, паступовага выхаду з крызіснай сітуацыі. Але рэалізаваць гэтыя ўмовы можна будзе толькі тады, калі ў краіне будзе забяспечаны парадак, улада будзе дзейнічаць прафесіянальна і ўпэўнена, а кожная галіна будзе працаваць у сваім прававым полі. Нельга бясконца займацца перацягваннем каната, траціць такі дарагі сёння час на высвятленне, хто з'яўляецца больш важным. І Прэзідэнт, і парламент, і судовая ўлада павінны мець акрэсленыя Асноўным законам паўнамоцтвы і дзейнічаць не перашкаджаючы, а дапаўняючы і дапамагаючы адзін аднаму. Дзеючая сёння Канстытуцыя пры ўсім сваім станоўчым патэнцыяле такіх магчымасцей не дае. Вось чаму я пасля доўгіх развагаў, парад з вучонымі і спецыялістамі прыйшоў да высновы аб неабходнасці ўнясення ў яе адпаведных змяненняў і дапаўненняў. А каб канчаткова быць упэўненым, што не памыліўся, я вырашыў абмеркаваць гэта са сваімі выбаршчыкамі, народам, апублікаваўшы праект змяненняў і дапаўненняў у друку. Пасля ўважлівага вывучэння і ўліку ўсіх прапаноў новая рэдакцыя Канстытуцыі будзе вынесена на ўсенародны рэферэндум, які адбудзецца 7 лістапада гэтага года».

Закранаючы самую галоўную праблему — праблему матэрыяльнага забеспячэння вартавых граніцы, Прэзідэнт адзначыў, што ў час нядаўняга візіту ў Мінск дырэктара Федэральнай пагранічнай службы Расіі генерала арміі Андрэя Нікалаева была дасягнута дамоўленасць, згодна з якой з наступнага года праца беларускіх пагранічнікаў будзе аплачвацца на ўзроўні іх расійскіх калег за кошт сродкаў, выдзяляемых Расійскай Федэрацыяй. Акрамя таго, па даручэнню Аляксандра Лукашэнкі як Старшыні Вышэйшага савета Супольніцтва сёння група спецыялістаў рыхтуе палажэнне аб Пагранічных войсках Супольнасці. У ім будуць адлюстраваны асноўныя напрамкі дзейнасці і функцыянавання пагранвойскаў Беларусі і Расіі. Прэзідэнт таксама звярнуўся да Дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана з даручэннем разгледзець магчымасці павелічэння бюджэту пагранічных войскаў на будаўніцтва жылля.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## АДЗІНАЙ КРЫНІЦАЙ ДАБРАБЫТУ ПАВІННА БЫЦЬ СТВАРАЛЬНАЯ ПРАЦА

### Даклад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі на Рэспубліканскай нарадзе 10 верасня 1996 г. «Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2000 года»

Паважаныя таварышы!

Сёння на суд спецыялістаў і ўсяго народа выносіцца праект Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі да 2000 года.

У яе распрацоўцы ўдзельнічалі лепшыя розумы нашай краіны, якія прадстаўляюць розныя плыні эканамічнай думкі.

Я некалькі разоў вяртаў праект на дапрацоўку, паколькі прапануемыя варыянты не поўнасцю адпавядалі двум галоўным патрабаванням:

па-першае, праграма павінна быць рэалістычнай, выканальнай;

па-другое, яе рэалізацыя павінна забяспечыць паляпшэнне жыцця людзей не ў далёкай перспектыве, а ў бліжэйшы час.

Можна напісаць якую хочаш праграму. Але грош ёй цана, калі яна застанецца на паперы або прывядзе да пабудовы грамадства, якое прыгнятае простага чалавека.

Я ніколі не збіраўся і не збіраюся праводзіць рэформы дзеля рэформаў, уводзіць рынак дзеля рынку або праводзіць прыватызацыю дзеля прыватызацыі.

Не збіраюся я і падманваць людзей расказамі аб тым, што спачатку трэба стварыць клас багатых, а потым яны накормяць усіх астатніх.

Рэформа павінна праводзіцца такім чынам, каб адзінай крыніцай дабрабыту было не жульніцтва, не крадзеж, а стваральная праца няхай гэта будзе ў дзяржаўным або прыватным сектары эканомікі, няхай гэта будзе ў матэрыяльнай, фінансавай або духоўнай сферы. Толькі такі шлях эканамічнага развіцця адпавядае выпакутаванаму гістарычнаму вопыту беларускага народа, яго менталітэту.

У той жа час мы не збіраемся вынаходзіць веласіпед, адкрыты крытычнаму выкарыстанню лепшага сусветнага вопыту. А вопыт гэты паказвае, што лепшай формай арганізацыі народнай гаспадаркі, што дазваляе арганічна ўвязаць эканамічную эфектыўнасць з высокім узроўнем сацыяльнай абароненасці насельніцтва, з'яўляецца сацыяльна арыентаваная рынкавая эканоміка.

Яна дае свабоду прадпрымальным, стварае магчымасці ўсім, хто хоча і можа працаваць і зарабляць. Тыя ж, хто пазбаўлены гэтай магчымасці, а гэта перш за ўсё пенсіянеры, інваліды, мнагадзетныя і няпоўныя сем'і, становяцца аб'ектам клопату і абароны дзяржавы.

Асноўныя палажэнні Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі да 2000 года, тэкст якой вы маеце на руках, улічвае як пазітыўныя, так і негатыўныя моманты цяперашняга стану беларускай эканомікі.

Многія ўжо забыліся, што два гады таму зарплата абясцэньвалася, вобразна кажучы, пакуль чалавек нёс яе дамоў. Затое кучка людзей стрыгла інфляцыйныя купоны і нажывалася без усялякіх намаганняў і турбот. Гэтага больш няма.

Таму сярод пазітыўных момантаў я ў першую чаргу выдзеліў бы замаруджванне інфляцыйных працэсаў.

Узровень інфляцыі за 1 паўгоддзе 1996 г. у сярэднямесячным вылічэнні склаў 2,65 працэнта, а ў 1994 годзе — 30 працэнтаў.

Мы навучыліся кантраляваць дынаміку курса беларускага рубля. Дзякуючы гэтаму павысіўся яго неабгрунтавана заніжаны курс.

У выніку двухгадовай напружанай работы ўдалося замарудзіць тэмпы зніжэння аб'ёмаў вытворчасці ў эканоміцы ў цэлым, а ў асобных галінах намеціўся рост.

Валавы ўнутраны прадукт за сем месяцаў знаходзіцца на ўзроўні мінулага года, а прамысловай прадукцыі выраблена на 2,7 працэнта больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года.

Добрыя тэмпы росту вытворчасці набіраюць металургічныя заводы, прадпрыемствы па вытворчасці мінеральных угнаенняў, шын аўтамабільных і для сельскагаспадарчых машын. Узрасла вытворчасць металарэзных станкоў, кормаўборачных камбайнаў.

Гэта гаворыць аб тым, што ўжо многія прадпрыемствы краіны пачалі прыстасоўвацца да ўмоў рынку і пашыраюць выпуск канкурэнтаздольнай прадукцыі.

У адрозненне ад многіх рэспублік былога Савецкага Саюза мы захавалі сельскую гаспадарку і ў стане самі пракарміць сябе.

У гэтым годзе сабраны нядрэнны ўраджай збожжавых. Каля паловы гаспадарак (43 працэнты) атрымалі ўраджай збожжавых звыш 25 цэнтнераў з гектара, а 17 гаспадарак — звыш 50 цэнтнераў.

Абагульняючым паказчыкам стану спраў у эканоміцы з'яўляецца дабрабыт людзей.

Тут нам удалося пераламіць тэндэнцыю зніжэння рэальных грашовых даходаў насельніцтва, якая назіралася ў мінулыя гады. Больш таго, у памесячнай дынаміцы, пачынаючы з красавіка, намеціўся іх рост.

Аднак не ўсе грашовыя даходы ўлоўліваюцца статыстыкай. З вялікай доляй упэўненасці можна сцвярджаць, што рэальныя даходы насельніцтва яшчэ вышэйшыя.

Аб гэтым сведчыць хоць бы рост рознічнага тавараабароту і ўкладаў насельніцтва.

Тавараабарот у супастаўных цэнах за студзень—ліпень 1996 г. у параўнанні са студзенем—ліпенем 1995 года павялічыўся на 10 працэнтаў, аб'ём платных паслуг — на 14 працэнтаў. Значыць, у насельніцтва ёсць грошы, ёсць чым плаціць за тавары і паслугі.

Рэшткі ўкладаў насельніцтва ў банках на 1 жніўня склалі 7,4 трыльёна рублёў, што ў два разы вышэй за ўзровень 1 жніўня 1995 года.

Ажывілася жыллёвае будаўніцтва. За сем месяцаў гэтага года ў эксплуатацыю ўведзена ў паўтара раза больш жылля, чым за адпаведны перыяд мінулага года.

У рэспубліцы нізкі ў параўнанні з іншымі постсавецкімі дзяржавамі ўзровень беспрацоўя — каля чатырох працэнтаў.

Было б памылкай не заўважаць пазітыўныя моманты, адзначаныя ў развіцці нашай эканомікі. Але намнога большую памылку мы зробім, калі будзем іх пераацэньваць і будзем ігнараваць вельмі сур'ёзныя заганы беларускай эканомікі.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

*УСЛЕД ЗА ПАДЗЕЯЙ*

## НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ, АХУТАНАЕ ТАЙНАЙ. ПАКУЛЬ ШТО...

**Нашы спецыяльныя карэспандэнты Алесь Карлюкевіч і Ігар Шчучэнка перадаюць з месца здарэння**

**Учора газеты, а пазаўчора — радыё і тэлебачанне больш-менш падрабязна расказалі пра трагічныя падзеі, што адбыліся паблізу Шышчыц (недзе каля 30 км ад Слуцка). Перш чым расказваць пра непасрэдныя ўражанні ад наведвання месца здарэння, заўважым: літаральна ўсе паведамленні грашаць недакладнасцямі, некаторымі іншымі хібамі. Таму падкрэслім, што нашым суправаджальнікам па вайсковай і прылеглых да яе тэрыторыях з'яўляўся часова выконваючы абавязкі намесніка міністра абароны Рэспублікі Беларусь палкоўнік Дырман Іван Васільевіч.**

А цяпер вернемся да падзей, што адбыліся тут у лясным масіве, прыблізна за пяць кіламетраў ад вёскі Адамава. Як вядома, ноч з пятніцы на суботу, з 6 на 7 верасня, выдалася надзвычай дажджлівай. Лівень, сапраўдны трапічны лівень, працягваўся і ў суботу з раніцы.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**



Фота Віктара ДРАЧОВА.

3 жылога сектара артбазы эвакуіравана 48 сем'яў.



Фота Віктара ДРАЧОВА.

Выбухі снарадаў прабіваюць сцены і дахі пабудоў на тэрторыі базы.

